і сьпела
як жоўтая сьліва
як жаданьне
аўтобус
зусім быў няпоўны
і зьліва
набліжалася…
помніш
як поўня?..

і дыхнула з мабільніка
шчасьцем:
я
помню!

# ф

фа

фабіянка
фаерка
фанатка
фантомка
фартэлька

фабрыкантка
фабзайка
фагістка
фаўнашукальніца
фабрыка-кухня

фаварытка
фантастка
фавістка
фанфарка
фантасмагорыя

фаверолька
фаготка
факотка
факачка
факачка-аль-пэста

фагацінка
фазанка
фазэндніца
фабія
фазамэтрыстка

фаервэркерка
фаечка
файлічка
файка
файдушынка

факалістка
факірка
факолька
факленка
фактурніца

факельцужніца
факся
факея
факуля
факаня

факаньерка
факсоўка
факультатыўка
факофачка
факаіністка

факсымілька
факстротка
факушка
факіня
факутніца

фалянгістка
фальботка
фальцэтка
фальстартніца
фата-марганка

фальклярыстка
фарсінка
фарматка
фальшыўка
фальшывманэтчыца

фальканэтка
фарпостка
фальклэндка
фарсунка
фальшывамінэтчыца

фаляндушка
фантушка
фальварніца
фарандалінка
фальсыфікатарка

фалерыстка
фалістка
фатэльніца
фалесіянка
фалясаманка

фамільярка
фароска
фармозка
фанабэрніца
фахітасафілка

фанатычка
фан*і*палька
фанікулёрніца
фанечка
фанікапланка

фантазёрка
фантазія
ф*а*інька
файніца
фартыфікацыя

фантамасачка
фанта
фарботка
фартунка
фалясагнамістка

фанфаронка
фасонка
фарт*ы*сімка
фаўст-патронка
фарватэрка

фараонка
фарэрка
фармалка
фальцоўшчыца
фастум-гелька

фа-соль-фа
фасольмайстарка
фачка
фарцоўшчыца
ф*а*рачка

фарэнгейтка
фарсажніца
фартэпіянка
фартэцыя
фармацэўтуля

фарынгітка
фарштатка
факторніца
фактаралка
фармальдэгідка

фарысейка
фашыстка
фацэтка
фатэлька
фацэція

фастрыгуля
фасгенка
фасадка
фасолька
фаршыравальніца

фаталістка
фатуня
фэльдфэбэлька
фэльдсувязістка
фарэртарка

фатэрляндка
фатхістка
фатонка
фантазія
фатка

феба
фэльчарка
фея
фэербахіянка
фэербухалка

фэдэралка
фетыда
фэсталка
фэльд’егерка
фэнамэналка

фэерычка
фэрганка
фіванка
фэміда
фэляцыяністка

фэлюмэна
фэн-шуйка
фэўдалка
фэсалянікейка
фіеста

фэрдыдурка
фэрнанда
феадасійка
фэзалія
фэля

фэрдыдупка
фэлюжка
фертушка
фрамужка
фэравальфрамка

фэстывалька
фэльдмаршалка
фэрамагнэзія
ферачка
ферця

фэтышыстка
фэліцыя
фэлічыталка
фэміна
фэлісмакталка

фехтавальніца
фенечка
фемачка
фэміністка
феленідасьледніца

фэшэнебелька
фэрмэрка
феня
фэлёнія
фэльетаністка

фігурантка
фіглярка
фінчлееўка
фігушка
фіга

фігурыстка
фігурніца
фітафагістка
фігістка
філякартыстка

фідэістка
філюмэністка
фізвыхаваначка
фікцыя
фікса

філяматка
фінгалка
фісташка
фіксанечка
фінка

філарэтка
фізычка
фізручка
фізыякратка
фіналка

філямэна
філядэльфійка
фінвалка
фіскалка
фіна-вугорка

філёквістка
філятэлістка
філяцялістка
фісталачка
фіфа

філіпінка
фіранка
фірм*а*чка
фітушка
фісгарманістка

філігранка
філфачка
філейніца
фізія
фібула

філіялка
фіялка
філістэрка
фірка
фільтратка

філянтропка
філёнга
філёрка
філорка
філістымлянка

філіжанка
філівыляжанка
фіярэнтынка
філфакачка
філія

філязофка
фідэлька
фіксатарка
фырка
фівеечка

фінінспэктарка
фітагармонка
філіпіка
фія
фітагурманка

фінітыстка
фіджыйка
фіёрдніца
фішка
фіглі-міглярка

фінансістка
філяфаністка
фіярытурніца
фінічка
фінікіянка

фіналістка
філярманістка
фітнэсаманка
фітнэсакурвачка
фіцджэральдыстка

фінціфлюшка
фірмоўка
фігурка
фізыятэрапэўтка
фініта

флейта
флёрніца
флерачка
флэшка
флердаранжолька

флёндра
фляшачка
флігелька
флексія
флёрэалька

флёрка
флегма
флегматка
флямандка
флэш-мобніца

флібуст’ерка
флятылія
флікерка
флягманка
флюараграфія

флюарынка
флейтыстка
фляворка
флюідка
фольксдойчанка

флягелянтка
фляконьніца
флёкса
флянёрка
флянэлька

флюарытка
флярынка
флярыстка
фляжалетачка
флюарэсцэнтка

флярэнтыйка
фліртушка
флебітка
флярытка
флямінга

флярыбунда
флямастэрка
флявія
фляжка
флякааматарка

фокстэр’ерка
флягшточка
флягштучка
фондадавалачка
фокстэр’ірка

фоля
фойка
фок-рэйка
фок-райка
фольк-мадэрністка

фольця
фобія
фотаэтудніца
формула
фортка

фольга
фолечка
форма
фотабактэрыя
фотагеністка

фолька
фолія
фолюшка
фон-баранэса
фольксштурмавічка

фотакопія
фотаскульптура
фон пошынгер
фотамадэлька
фотасардэлька

фотазадніца
фотапярэдніца
фотавакханка
фольксвагенка
фонамэтрыстка

форс-мажорка
франкістка
франтэрка
фрылансэрка
франка

франкафонка
фразёрка
фракійка
франдзёрка
фрыгідніца

франкмасонка
франтвумэнка
фру
франтавічка
фрытурніца

франсуаза
фрыгольдэрка
франкфурцянка-на-одэры
франкенштаінька
францаўна

фройлян
фрау
францужанка
франтаўка
фракцыянэрка

фрося
франя
франчэска
франчэська
францішка уршуля

фрыдрыхсгафэнка
фрэйліна
фрэска
фрайдыстка
фрасуначка

фрыкадэлька
фрыволька
фрустралка
фрыгійка
фрыбульбачка

фрыдрыхштрасаўка
фрызка
франконка
франкотачка
фрэзія

фрыказуля
фрэгатка
фрызурка
франталька
фрукцінка

фрыка
фрыкцыя
фрашачка
фрычка
фразэалягістка

фрыстайлістка
фрыт*а*нька
фрыпіска
фры-таунка
франкфурцянка-на-майне

фрэкен
фруза
фруктоза
франтонка
франкоўка

фуга
фурыя
функцыянэрка
фур*у*я
фундатарка

фуга-юга
фуэтка
фунтоўка
футуралягіня
фукусіма

фудзіямка
фужэрка
фунт золата
фурацылінка
фугаска

фудзіянка
фундушка
фунтстэрлінгаўка
фур’ерыстка
фуфлістка

фузілёрка
фурорніца
фуксія
фурачка
функцыя

фурагіня
фугета
фулярка
фундучэнька
фукалка

футаралька
футболька
футволька
фуражка
фуаграгурманка

футурыстка
футэрка
фуфырка
фуярка
фундамэнталістка

фюзэляжка
фіцёлачка
ф’ючэрка
фюрэрка

фрыда…

# Мая любая складаецца з шуфлядак

мая *лю*бая
складаецца
з шуфлядак

у адной
уладкаваўся
сьветлы настрой
у другой
варушыцца
нешта паласатае і ў кратку
у трэцюю
страшна й зазіраць

у гэтай
прыгрэліся
кацяняты добрых сноў
у наступнай
прыціснутыя
камянямі бяссонных начэй
кашмары

у шуфлядзе з кніжкамі
ідэальны парадак
усё паводле альфабэту
як у бібліятэцы
Акутагава
Борхэс
Ван Мэй

шуфляда-аптэчка
з куточкам кантрацэптываў
а тут
бруяцца
водары парфумы
запальваюць

быццам падабраныя
добрай ці злой вядзьмаркай

гарады
дзе мая любая
была шчасьлівая
Адэса
Амстэрдам
Варшава
Полацак
чамусьці Чарнаўцы

у суседняй шуфлядзе
хвалюецца мора
дзе мая любая
ледзь не пайшла на дно
дагэтуль не разумею
танула
ці тапілася

а вось
ранейшыя мужчыны
маёй любай
такія зь сябе пэрсанажы
тэатру марыянэтак
пераважна чарнявыя
адзін агніста-рыжы
адзін лысы
адзін чарнаскуры
а вунь той смуглявы
заколаты шпількай

да нашае эры
склалася багатая калекцыя
усё вельмі прыстойна
паважныя экзэмпляры
ў гарнітурах

часам швэдры і джынсы
у горшым разе
шорты й саколкі
на адной
камандантэ Фідэль

у асобнай
камфартабэльнай шуфлядцы
летуцее
зеленавокая шатэнка —
на наша мужчынскае шчасьце
лесьбійскі досьвед
маёй л*ю*бай
застаўся самотным

учора
калі мая любая
стамлёна заснула
я пяшчотна вызваліўся
зь ейных абдымкаў
адчыніў шуфлядку для л*ю*бага
і заместа сябе
знайшоў там
свайго даўняга
сябра

# Сэкс прыдумалі зулусы

*футбольнаму чэмпіянату сьвету — 2010*
*ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы*
*прысьвячаецца*

сэкс прыдумалі зулусы
у саваньне
ваньне
раньнем
з выляжанкаю на стайні
з жонкаю у роднай спальні
на ліянах і абрусах
на сваім стракатым сьцязе
на гарышчы ў Златай Празе

сэкс прыдумалі зулусы
ў кабінэце
на касэце
у Валеце
пад трыбунамі ў клязэце
у чаўнах ды інтэрнэце
ў сельсавеце і улусе
між гібонаў на сафары
у футболцы з Чэ Геварам

сэкс прыдумалі зулусы
вечны
спрэчны
небясьпечны
як пэнальці бессардэчны
пад кустом і Шляхам Млечным
з уругвайкай ды індусам
на сьняданак і ў сіесту
перад тым як цябе зьесьці

сэкс прыдумалі зулусы
з твістам
сьвістам
і расістам
з рэфэры і футбалістам
за більярдам і за вістам
з украінкай і тунгусам
кожны вечар канібалы
набіраюць сабе балы

сэкс прыдумалі зулусы
хай сабе і беларусы
і з хет-трыкам і квартэтам
з асырыйкаю і хетам
але я хачу каханьня
хоць глыток на адвітаньне
з гэтым летам-прайдзісьветам
з форвардаў кардэбалетам
зь недаробленым мінэтам
на ўзьбярэжжы пад Лярэтам
дзе у каталёнскім моры
мы з табой тапілі сорам

сэкс прыдумалі зулусы
хай сабе і беларусы
з пляшкай ўіскі й трыялетам
у аўтобусе і ў гета
але я хачу каханьня
хоць глыток на адвітаньне
з гэтым летам-пустацьветам
з выйграным адзіным сэтам
з праязным чужым білетам
з падарожжам кругасьветным
між Кейптаўнам і Менскам
на тваім фатэлі венскім

сэкс прыдумалі зулусы
хай сабе і беларусы
зь фінкаю і пісталетам
з карсіканкай і вэндэтай
але я хачу каханьня
хоць глыток на адвітаньне
з гэтым ліпенем што ў Лету
адплывае ў сандалетах
з гэтым жніўнем і з кабетай
што даўно ня мной сагрэта
ды прысьнілася ў нядзелю
ў вувузэлы мы дудзелі!

Божа
дай глыток каханьня
хоць адзін на адвітаньне
з расфутбольным скварным летам
не хачу казаць: са сьветам
бо прыкінуўся паэтам
а ты ведаеш: пры гэтым
нельга аддавацца ловам
рызыкоўных рыфмасловаў

Божа
дай глыток каханьня
хоць адзін на адвітаньне
і ў сваёй нябеснай высі
не ў афсайдзе
ў райскім садзе
ты мяне каханым высьні!

## Атрымайце тэлеграму

у дзяцінстве
ён вынайшаў ліхтарык:
у слоіку з-пад маянэзу
хапала дваццаці сьветлякоў
каб чытаць пад коўдраю
Эдгара По

у юнацтве
ён вынайшаў рэцэпт
заваёвы жаночых сэрцаў
(дакладней усяго астатняга)
якім ніколі не дзяліўся
мяркуючы па ўсім
інгрэдыенты былі надзейныя

у сталасьці
ён вынайшаў прэпарат
для паляпшэньня эрэкцыі:
шклянка ўіскі *Johnnie Walker*
крыху разбаўленага
месяцавым сьвятлом
другая шклянка
ўжо лішняя

у старасьці
ён вынайшаў сродак
ад сьмерці:
вымкнуў усе тэлефоны
бо сучасная сьмерць
перад візытам
абавязкова звоніць
гуляючы ў маўчанку
альбо дасылае
пустую эсэмэску

учора на хаўтурах
я даведаўся:
два дні таму
яму прынесьлі
старамодную тэлеграму
з чыстым блянкам
без зваротнага адрасу

# Вандроўная паэмка

я не памру
я дам ырца
ў нябыт

там будзе восень

і вецер
мне накрэсьліць шлях
куды
ісьці
каб ля чародкі сосен
пры возеры жывой вады
дзе неба ў просінь
мяне сустрэлі
некалькі жанчын
чамусьці восем

я пацалую
кожную
прычым
з аднолькавай пяшчотай
пацалую
застацца зь імі
не знайду прычын
і выгукне адна
наўсьлед:
сумую!

адна ўсяго
які забаўны сьвет!
ці гэты
ці мо той
адкуль прывёў
відушчы вецер
я ўжо ня ведаю

каторы мой
о ясны
о няўцямны сьвеце!

а вецер
павядзе мяне далей
углыб краіны
і ноч насунецца
і ўраньні Калізэй
я ўбачу з гор
у прыцемнай даліне
мы пройдзем неўзабаве
Картаген
і горад
у якім жывуць пінгвіны

а надвечар
каля антычных сьцен
дзе будзе паказальнік
«Троя»
мяне сустрэнуць
некалькі мужчын
чамусьці трое

у засені старых аліў
мы вып’ем грапы
там на прычале
з рыльца
і прыліў
пачнецца раптам
і тады —
так
гэта ён!
Букоўскі Чарлз
няцьвёрда ступіць
з-за калён
і стане пятым

ня дамся дзіву
як за ім
да нас на госьці
падыдзе
Грабал Багуміл
і стане шостым

ну што такое літар
на шасьцёх
тым больш тут Чарлі
тубыльцу крыкнем
скрынку каб прыцёг
і грэцкіх літар
не расчытаўшы
каўтанем сынхронна

у пляшках чарлік
мой тутэйшы бог!
ня Хронас —
Дыяніс!
прымай дары данайцаў!

вы думаеце
што вы грэкі?
вы — засранцы!
гукне
у вусьціш
мэтар Чарлі
(сранцы! сранцы!
падхопіць рэха)
і каб белы сьвет ня міл
вам стаў
усім
адкруцім яйцы!
кіўне з ухвалай
мэтар Багуміл

ды гэта будзе
толькі сон
вясёлы
ў тых мясьцінах
таксама сьняцца сны
і зноўку
я адзін
увосень
між раўнін
і гор бясконцых
як праклён
такі напэўна
кон
і вецер-праваднік
мяне пакінуў

куды ўзяць курс?
на Вільню
альбо Менск?
які там драхмы курс?
ці буду я багаты?
у Берасьце брысьці
да сябра
ці
ў Эфэс зьвярнуць
да дзядзькі Герастрата?

і дзе атайбавацца
ў небыцьці
каб мець сабе
прыстанак негалімы
у Полацак
на досьвітку прыйсьці
ці быць апоўначы
ў сьвятым Ерусаліме?

але такой тугой
мне сьцісьне скроні
што вецер вернецца
і хваляю тугой
заплешча ў грудзі
гэта знакам
будзе
і птушка сядзе
у мае далоні

пасланка з таго краю
дзе
яшчэ ня ўсё
дажыта і дапіта
дзе сонца танчыць
у жывой вадзе
дзе голас твой
так срэбна-незабыта
струмком зазвоніць
зноўку
ў тэлефоне
з-за небакраю
ад чародкі сосен

тады
на строме
роспачы і веры
ўзгадаю я
адчыненыя дзьверы
з сэнтэнцыі Сэнэкі
каб туды
сысьці маглі
слабыя чалавекі

і голас твой
зь дзьвярэй тых данясецца
як электронны ліст

наўпрост у сэрца
і рушу я да мора
ў паняверцы
але
цяпер з надзеяй самагубцы
не задыхнуцца
ў гэтай душагубцы

скала
куды я падымуся
будзе ўжо
дыханьнем пекла блізкага
сагрэта
о ластаўкі!
я ўспомню як
вы леціцё
увесну
там
дзе восень
яшчэ за летам
там
дзе неба ў просінь
вы леціцё
на сьвеце тым
за крок
ён стане гэтым
я не ўваскрэсну
дам нырца
ў жыцьцё

там будзе лета

## Corsica

усё лета
пад старым ясенем
за маім вакном
чакае кагосьці
сіні «рэно» —
францускі нумар
налепка CORSICA
герб тамтэйшых незалежнікаў

маю ўжо тузін вэрсіяў
што здарылася
з кіроўцам
ды пасажырамі —
хай бы ніводная ня спраўдзілася

сяджу пры кампутары
з улюбёным келіхам
адшукаў
у вінярні на рагу
бастыён карсіканскага
вядома чырвонага
даўкага
як дзікая сьліва
густога
як кроў астраўлянаў
з ваколіцаў Порта-Вэк'я
Бастыі й Аяча

дзесьці там
за вакном
за паркам
за морам
на радзіме гэтае пляшкі
й гэтае крыві
дзень пры дні

паркуе свой «рэно»
і
закінуўшы стрэльбу на плячук
вядзе сына ў *макі*
прысадзісты чалавек
з чорнымі як сажа кудзерамі —
мой даўні знаёмец
Матэо Фальконэ

# Краіна Ур

там
за трыма
маўклівымі дзьвярыма
з гарэльефамі
жорсткіх і сьмешных
тыранаў
там
за мармуровымі сходамі
дзе стаяць на варце
харугвы
павукоў і мурашак
там
за памежнаю брамай
з магістрацкіх кнігаў
сямі шумэрскіх гарадоў
пачынаецца
краіна Ур

ты кажаш
там гараць шчокі
віно
з прысмакам акіяну
а вецер
пахне тархунам
і рэчывам
што ўтвараецца
ад каханьня
мужчыны і жанчыны

ты кажаш
людзі ў той краіне
п’юць матэ
кахаюцца
на сініх фатэлях
гавораць

на пяцідзесяці шасьці
дыялектах —
па колькасьці прыступак
піраміды
што ўзвышаецца ў сталіцы
сярод зацьвілых ліпаў
і язьміну

я кажу
там адключылі
гарачую ваду
абрэзалі тэлеграф
вечная праблема
з роўмінгам
і запалкамі

я кажу
там валадарыць чалавек
на імя Гільгамэш —
мае стасункі
зь іншымі плянэтамі
лётаў у сузор’е Дзевы
па рэцэпт неўміручасьці
экспэдыцыя
была пасьпяховай —
пацьвердзіць любы службоўца
бібліятэкі Ашурбаніпала

ты кажаш
выпіла б зараз джыну
чаму б і не
кажу я —
на мяжы з Мэсапатаміяй
у сініх зарасьніках ядлоўцу
гоняць
стары добры джын «Ведрыч»
а зь Фінікіі

ужо завезьлі фінікі
кажу я
нібы костачку зь фініка
вылушчваючы цябе
з анталягічнага неспакою
з рэвалюцыі
праз сацыяльныя сеткі
з дэвальвацыі
з клопатаў пра дзяцей
з ранішніх паведамленьняў
пра новыя арышты йператрусы
з навіны
што наш калега-гісторык
неабачліва
зламаў сабе
на турэмным шпацыры
нос

ты кажаш
магчыма там
у краіне Ур
зноў навучысься
плаваць
і я
вылушчваю цябе
нібы пэрлінку
з ракавінак
плашча й сукенкі
з багавіньня панчошак
станікаў і майткоў
(апошнія маюць здольнасьць
размнажацца
нават на працягу дня)

я кажу
найлепей вучыцца тут
у азярыне

сіняга фатэля
куды ты ўваходзіш
дарослай дзяўчынкаю
якая
яшчэ нікога не нарадзіла
бо толькі што
нарадзілася сама —
пакуль ня ведае
якія кропачкі
трэба нацерці мёдам
перад тым як адлічыць
пяць магічных udaraў
па асырыйскіх крумянках
менскай дзесяцікласьніцы

каб
навучыцца плаваць
як жабка
а таксама на сьпінцы
на каленках
абавязкова на каленках
і ўсімі іншымі стылямі

каб
пад касьмічным позіркам
нашага суўдзельніка
Гільгамэша
адчуць
пяшчотны ўкол
срэбнага
струмка
неўміручасьці

# Пасьля тваіх званкоў

пасьля тваіх званкоў мяняецца надвор’е
капеж зьвініць або кладзецца сьнег
залеву або зьнічку неба дорыць
і воўк ляпляндзкі паскарае бег

пасьля тваіх званкоў каты пяюць на дахах
самнамбулы іх кормяць зь цёплых рук
і сэрцы пачынаюць гулка тахкаць
у вожыкаў з-пад Прагі і Прылук

пасьля тваіх званкоў спыняюцца таксоўкі
трамвай ідзе з дэпо якраз туды
дзе прадстаўнік азёрнай школы Колрыдж
нам налівае вогненнай вады

пасьля тваіх званкоў вяртаецца надзея
і суіцыду нехта кажа бай
растуць валютаў курсы а зладзейкі
замест кішэняў лезуць на *tut.by*

мой Божа! Мы сусьвет народзім новы
ў сваіх абдымках… Ты — багаславі!
мы вынайдзем для закаханых мову
са сьмеху стогнаў сьлёзаў і любві

мы ўлежнымі пабудзем з гэтай поўняй
але пад коўдрай хопіць і турбот
каб закахана-беларускі слоўнік
у друк аддаць пад самы Новы год

## Дзяўчына з касой

я ўбачыў яе адразу
юную й чыстую
ў каламутнай вакзальнай рацэ
вакол ейнай касы
пагойдваліся на хвалях
валізкі
капелюшы
бананы
кветкі
пахавальныя вянкі

я пазнаў яе імгненна
нягледзячы на маладосьць
джынсы
фірмовы заплечнік
флікер
яна падміргнула:
люблю кемлівых

я паплыў хутчэй
брасам
кролем
батэрфляем
як у суботу
пераплываючы возера

яна не адставала
дала нырца ў тунэль
купіла ранішнюю газэту
пяшчотна дыхнула ў патыліцу
на вулічным пераходзе
кожная хрыбетка
ўжо адчувала яе

яна ішла за мной да самага дому
сытуацыя была ня з горшых:

усё здарыцца
ня дзе-небудзь на лавачцы
ля сьметніцы —
нас атуліць знаёмы ложак
на вакне цьвітуць пэляргоніі
магчыма
застанецца час на экспэрымэнты

я апынуся ў ейных абдымках
першым
прынамсі сёньня
а можа наогул
(ня выключана што яна
прыбыла на стажыроўку)
у нейкім сэнсе
я пазбаўлю яе нявіннасьці
такая постаць
такія пульхныя вусенкі
шмат абяцаюць

яна раптам передумала
нешта прачытала ў газэце?
выбрала іншага?
маладзейшага
паголенага
з модным заплечнікам?

я запомніў яе
да апошняга глытка
віна й паветра
да апошняга пацалунку —
тую жнівеньскую дзяўчыну
з касою
лязо якой
яшчэ было спавітае
бялюткім цнатлівым бінтам

***

анёлы!
дайце мне
яе
запясьці

# Паэтычны фэст у Друскеніках

*Балядa*

твой арганізм атручаны паэзіяй
яе даюць на сьняданак
у яечні з бэконам
у каве зь вяршкамі
ў зялёнай і чорнай гарбаце
чорная рыфмуецца з турмой

чытаеш верш
*Ліст начальніку турмы*
на экране пераклад
літоўская і ангельская
ці марыў ён у дзяцінстве
стаць начальнікам турмы?
якія кнігі ў яго бібліятэцы?
Франсуа Віён?
том Оскара Уайлда
з «Балядай Рэдынгскай турмы»?
нехта зь вязняў у 1937-м
надрапаў на тынку
*РАДЗІМА*
так і засталося
начальнік загадаў не зафарбоўваць
радзіму трэба любіць
паўсюль

што заля ведае пра 37-ы?
што ты ведаеш пра 37-ы?
ведаў твой дзед
калі-небудзь раскажа

паэтка з Брытанскіх выспаў:
ці мог ваш начальнік  чытаць Уайлда?
паэт з Вэнэсуэлы таксама нязгодны

ведае чалавека які зь дзяцінства
марыў стаць начальнікам турмы
стаў ім
мары здзяйсьняюцца
ці мог ён чытаць Уайлда?
адказ станоўчы

адзін слухач упэўнены што ты сядзеў
другі сядзеў сам
запрашае выпіць
самагон грэе лепей за чытацкую любоў
апрача таго дэзынфэкцыя

твой арганізм атручаны паэзіяй
на абедзе яна ў начынцы цэпэлінаў
пачынаеш разумець
чаму бульбяныя клёцкі
названыя ў гонар лятальных апаратаў
кухары служылі таксама
прыдворнымі паэтамі
або наадварот
або лёталі на цэпэлінах
бразнуліся аб глебу
смачна есьці!

на календары 8 кастрычніка 2015-га
Стакгольм не падвёў
Нобэль у Сьвятланы Алексіевіч!
літоўскі паэт віншуе:
цяпер Літве не дадуць ніколі
там ведаюць геаграфію
абдымае за плечы латышку і эстонку:
вам таксама ня сьвеціць
расслабцеся

харвацкі паэт
расслабляецца роднай сьлівовіцай

частуе цябе зь японкай
ім Нобэля ўжо давалі
думаеце дапамагло?

японская паэтка
аддае перавагу сакэ
просіць напісаць «Алексіевіч» па-беларуску
Харукі Муракамі
трымаўся ў букмэкераў на другім месцы
японка не чула
просіш напісаць «Муракамі» па-японску

паводле Нобэлеўскага камітэту
сёньня дзень прозы
але
твой арганізм атручаны паэзіяй
яна ў сьвіных вушках зь лісічкамі
у вэгетарыянскіх салятах
у неразбаўленым нічым таматным соку
сьлівовіца стала ўспамінам
гамэапатычныя дозы літоўскага самагону
могуць давесьці да шпіталізацыі
няхай жыве беларускі бальзам!
цудоўны антыдот
колер нечай нобэлеўскай зайздрасьці
жуе Беларусь!

не сумуй літоўскі калега
вам калі-небудзь таксама дадуць
але спачатку зноў нам
вось пабачыце

чытаеш верш
*Дзяўчына з касой*
вакзал заплечнік з флікерам
лязо туго забінтаванае

пакуль што прыехала не да цябе
яшчэ ёсьць прывідныя шанцы

адна слухачка
хацела б прыехаць да цябе
ты зможаш сустрэць?
калі захопіць касу-літоўку
выдатная рыфма:
літоўка — *літоўка*
не верыце – калі ласка ў *Google*

польскі паэт кажа
тут побач пахаваны Ян Чачот
едзеце на могілкі
выпіваеце за Яна Чачота
звоніць твой сотавы
гэта Чачот кажаш ты
той хто набраў нумар маўчыць
просіш яго паслаць *sms*

дадаеце Чачота
ў сьпіс удельнікаў фэсту
спрабуеце ўзгадаць на памяць
хоць адзін яго верш
няхай жыве
сусьветнае брацтва паэтаў!
на тым і на гэтым сьвеце
у тым і гэтым сусьвеце
ах якія рыфмы!

удакладняеш:
брацтва і сястрынства
паэтаў і паэтак

харват частуе японскую паэтку
падступна прыхаванай сьлівовіцай
гішпанскі паэт удзельнічае ў дэгустацыі

падымае вялікі палец угору
хоча зрабіць японцы прыемнае
кажа : сакэ — *mierda*[*]
спрабуе адабраць у вавёркі ў парку гарэх
трэба закусіць
зараз ягоны выхад

гішпанскі паэт чытае верш
пра гішпанскі горад Барсэлёну
гішпанскага дойліда Антоніа Гаўдзі
гішпанскага мастака Хуана Міро
адзін слухач не вытрымлівае:
*Catalunia is not Spain!*[**]
гэты слухач ня ты
але ты пляскаеш
заля таксама
верша ўжо не чуваць
бурныя працяглыя аплядысмэнты
*Catalunia is not Spain!*

цьвёрдым крокам падымаесься на сцэну
чытаеш верш
*Музэй гадзіньнікаў у Браціславе*
урэшце ўсе мы ператворымся
ў даканалыя часткі
сусьветнага пясочнага гадзіньніка
на экране пераклад
літоўская і ангельская
*mierda* кажа гішпанскі паэт
відавочна пра пераклад

польскі паэт чытае верш які
ты перакладаў на беларускую

* лайно (*гішп.*)
** Каталёнія — не Гішпанія! (*анг.*)

*ня маеш дому*
*ёсьць побач горад*
*засохне дрэва*
*застанецца лес*
*канае чалавек*
*перакульваецца сьвет*

на даляглядзе перакульваецца
невядомы паэт зь невядомай краіны
сьвет не канае
паэт таксама жывучы

японская паэтка чытае верш
паводле якога
нікому нельга верыць
ні манархістам
ні сэпаратыстам
ні камуністам
ні хрысьціянам
ні дзэн-будыстам
ні ёй самой
харвацкі паэт кажа
пасьля ўчорашняга — сьвятая праўда

харвацкі паэт чытае верш
у якога толькі назва
назва *Цішыня*
далей таксама цішыня
на чыстым экране імёны перакладчыкаў
літоўская і ангельская
геніяльныя рыфмы
найлепшыя пераклады

твой арганізм атручаны паэзіяй
да самых карэньчыкаў валасоў
добра швэдзкаму паэту
ён лысы

ды яшчэ прадбачліва не прыехаў
глядзіць з фоткі на праграмцы
дзякуй за Алексіевіч!

літоўскі паэт чытае верш пра магаў
знайшлі ў сьмецьцевым кантэйнэры
мёртвае немаўля ў плястыкавым пакеце
не паднесьлі яму дароў
не пахавалі
каб ня мець праблемаў з паліцыяй
пакінулі пакутваць за нашы грахі

трэба выпіць бо
твой арганізм атручаны паэзіяй
стаіш зь біклажкай у руках
зь біклажкай дзе скончыўся антыдот
трэба ісьці ў нумар на запраўку

украінскі паэт чытае верш
як стаіш з квітком у руках
з квітком на цягнік які сышоў
крычыш у сцяну
а яна — нічога нармальна — слухае
а на ёй нейкія бурыя плямы
быццам тут кагосьці
ну самі разумееце

двое слухачоў падымаюць
жоўта-блакітны сьцяг
трэці выгуквае:
слава бандэраўцам!

чытаеш верш
*Я марыў стаць патолягаанатамам*
мара спраўдзілася
але не ў цябе
адна слухачка кажа

яе званітавала ў пакецік
чытайце такія вершы ў трупярнях!
другая слухачка гатовая да знаёмства
пакуль бяз скальпеля
але можна глыбей
для анэстэзіі
цёмны як кроў патолягаанатама
беларускі бальзам

у разьвітальнай вечарыне
калі верыць праграмцы
бяруць удзел
*William Shakespeare*
*T.S.Eliot*
*Robert Frost*
*Walt Whitman*
*Rugyard Kipling*
*John Milton*
*Dante*
*and* нейкія *Others*[*]

даехалі ня ўсе
аднак сэр Кіплінг
ужо рытмічна пагойдваецца
зь ім рыфмуецца Ўітмэн
Эліёт спрытна зафіксаваўся
эпіграфам да барнае стойкі
дзе — ты пытаесься
гендэрны балянс?
нельга было запрасіць Сапфо?
або Габрыэлю Містраль
або Віславу Шымборску
ці рызыкнуць нават
Эльфрыду Елінэк

---

[*] ды іншыя (*анг.*)

аднаўляеш балянс на пустэльнай набярэжнай
літоўская паэтка чытае толькі табе
верш — пра поўню
на небе няма перакладу
калі не лічыць самой поўні
у рацэ таксама поўня
гэта пераклад на беларускую
перакладчык вядомы

запомні
жорстка кажаш ты
гэтая рака называецца Нёман
запомні
ласкава кажа літоўская паэтка
гэтая рака называецца Нямунас
іначай нічога ня будзе

у самы напружаны момант
у зарасьніках глогу
крычыць начная птушка
гэта паэт з Эгіпту
*remember*
кажаш ты паэту з Эгіпту
*this river is called the Nioman*[*]
*bac`ka Nioman*
*bac`ka!*
радасна галёкае паэт з Эгіпту
*are you from Belarus!?*[**]
вечар атрымаўся

дастаеш біклажку
ты: *belarusian liqueur!*[***]
паэт з Эгіпту: *is it alcohol?*[****]

---

* запомні гэтая рака завецца Нёман (*анг.*)
** вы зь Беларусі!? (*анг.*)
*** тут — беларускі бальзам! (*анг.*)
**** гэта алькаголь? (*анг.*)

ты: *no it isn't*[*]
вы бачылі як п'юць
асьмяглыя жыхары Сахары?
паэт з Эгіпту:
*no! it isn't alcohol!*[**]
залазіць на лавачку пад залатым клёнам
дэкламуе верш
тваёй ангельскай не хапае
літоўская паэтка перакладае
верш як сфінкс ацэньвае
новую геапалітычную сітуацыю
ў паўночнай Афрыцы
над Нёманам выбухае фэервэрк
паэт з Эгіпту ацэньвае сітуацыю імгненна
падае пластуе за клён
нічога сьмешнага
брат загінуў у рэвалюцыю
*Алах акбар!*

кавярня атручаная паэзіяй
Мілтан дрэмле ў абдымках маладога прыхільніка
Эліёт захапіў месца бармэна
латыская паэтка аддаецца ўспамінам
даўні фэст у Ашгабадзе
сьвяткавалі зь беларусамі Ліго
па-вашаму Купальле
скакалі ў гатэлі
цераз паваленыя таршэры
напісала пра гэта верш
пасля глытка бальзаму павінна ўспомніць

наперад! усім шукаць таршэры!
у парку гусьцее атручаны паэзіяй туман
латыская паэтка чытае пад ліхтаром
верш — пра таршэры

---

* не (*анг.*)

** не! гэта не алькаголь! *(анг.)*

сярод слухачоў можна заўважыць
трох паліцэйскіх
адзін тлумачыць:
у парку не растуць таршэры
*а ви що Карл Ліней?*
нечакана пытаецца паэт з Украіны

паваліць слуп зь ліхтаром доўга не ўдаецца

паэтычныя чытаньні
працягваюцца ў паліцыі
ты цалкам гатовы даваць паказаньні
*yes*
твой арганізм атручаны паэзіяй
паэт з Эгіпту ўдакладняе:
*it isn't alcohol!*
паліцэйскі сумняецца
краіна пражываньня?
ты (урачыста):
*Magnus Dukatus Poesis!**
паліцэйскі (задуменна):
зараз прыедзе Вэргіліюс
ты (ветліва):
няхай захопіць Гарацыюса з Катуласам
і Шэксьпіраса

з'яўляецца Вэргіліюс
вядзе Ўітмэна і Эліёта
Шэксьпірас ідзе сам
бярэ мышку ад кампутара
пачынае ўпэўнена дэклямаваць у яе
замест мікрафону
чамусьці па-літоўску
радкі знаёмыя
ты перакладаў іх на беларускую

---

* Вялікае Княства Паэзіі (*лац.*)

*ну вось і ўсё… цяпер ужо капец*
*на небе поўня*
*думкі што адбой праз хвілю…*

Вэргіліюс: яшчэ адзін пратакол!

адбіраеш у Шэксьпіраса мышку
падносіш да вуснаў
ты хочаш зрабіць палітычную заяву
цішыня не запаноўвае
прашу паэтычнага прытулку!
нетэатральна п*а*даеш
з галавой накрываесься праграмкай

бачыш як у дзьверы
з баявой харугваю  фэсту
ўрываюцца
Дантэ з Хаданавічусам
Муракамі з сакэ і сакурай
вэнэсуэльскі паэт з калашнікавым
*and Others*

дзесьці за сцэнай
Бон Джові сьпявае песьню
на твой даўні верш
*it's all the same*
*only the names have changed …*
*усё па-ранейшаму*
*толькі імёны зьмяніліся…*

# Алека

*Балканская балада*

1

*Nulla dies sine linea*[*]
адзін дзень *sine linea*
другі дзень *sine linea*
трэці дзень *sine linea*
за вакном вальеры
(так завецца твой кабінэт)
маўчыць сарока Соня
мокрая
без парасона
без навінаў
глябальнае пацяпленьне ня лічыцца
трэці год запар
у Менску дождж на Каляды

табе сьніцца млын
вадзяны лясны замшэлы
малоў яшчэ каліноўцам
усё як мае быць
жорны
прывіды
сам*ы* пад колам
вадзянік з русалкай
чуюць халера віры свая

падымаесься на досьвітку
ідзеш на млын
будзіш вадзяніка
русалка ня хоча прачынацца
яны сустракаюцца

---

[*] Ні дня без радка (*лац.*)

у сэньсе блізка сябруюць
п’яце каву
неўзаметку кранесься русалчынай рукі
яна цёплая
лепей пра гэта маўчаць:
вадзянік утопіць русалку
а заадно і цябе

у млыне бела рыпліва завозна
касінэры ідуць без чаргі
на дваіх тры рукі
як там было пад Мілавідамі*?

чацьверты дзень *sine linea*
затое са сьнегам
выходзіш з млына
пішаш на сьнезе дрэннае слова
табе падабаецца
яшчэ два дрэнныя словы
вось і першы радок

у млына зімовыя вакацыі
сам*ы* накрыліся хвастамі
прывіды ня любяць маразоў
вадзянік з русалкаю грэюцца пад лёдам
хутаюцца ў русалчыны косы
чаму ты не вадзянік?

сарока Соня чытае твой радок на сьнезе
ухвальна ківае
чысьціць сухія пёркі
ціха ўсюды глуха ўсюды
нешта будзе нешта будзе

---

* Найбольшая бітва беларускіх інсургентаў з расейскімі карнікамі ў паўстаньні 1863 г.

2

муза прылятае ў вальеру
у сутоньні
у брусьнічнай сукенцы
у брусьнічных панчошках
у празрыстых карункавых майточках
майточкі ляцяць на кампутар
сукенка не замінае

вядзеш музу да пісьмовага стала
там усё зазвычай і адбываецца
музе даспадобы што адбывецца
што ты шэпчаш ёй у вушка дрэнныя словы
што ты пішаш дрэнныя словы на сьнезе
што ты пішаш на паперы асадкай
муза кажа: як у часы Троі
ставіш ёй на пісьмовым стале
незалік па гісторыі

у вальеры застаюцца
тонкі водар спэрмы
некранутая кава
кранутая пляшка чырвонага
павучок на томе Борхэса
закладка на *Мужчыну з Ружовай кавярні*[*]
майточкі на маніторы
праз майточкі сьвецяцца навіны
прыходзяць лісты
ці мае Борхэс *e-mail*?

сарока Соня сакоча
быццам уставілі ў адно месца
завадны ключык
ліст з Сафіі
табе прысудзілі прэмію *Алека*

[*] Навэля Хорхэ Люіса Борхэса.

Алека гэта баўгарскі клясык
ты ніколі ня чуў
ставіш сабе незалік па баўгарскай літаратуры

3

Алека Канстанцінаў
нарадзіўся ў год бітвы пад Мілавідамі
у Сьвіштаве на Дунаі
вандроўнік
паўтузіна псэўданімаў
найлепшы — Башыбузук
куля ў трыццаць чатыры
засада на горнай дарозе
астатняе ў Гугле

сярод ляўрэатаў
Гайнрых Бёль
Ўільям Сараян
Марці Ларні
Васіль Аксёнаў
з мэтафізычных прычын ніхто не пад’едзе
нават Марыс Друон

калі верыць у памяць продкаў
Друону павінна сьніцца Вільня
павінна ж там нешта сьніцца
успамінацца
чытацца
выпівацца
яшчэ колькі дзеясловаў на *цца*

ёсьць шанец запытацца
пажадана ня вельмі хутка
але ня надта позна
раптам забудзеш што хацеў запытацца
Альцгеймэр дрэнны падказчык

нават у чыстцы
або вышэй ці ніжэй
кажуць ніжэй цікавейшая кампанія

*Люфтганза* страйкуе
лайнэры канкурэнтаў
штодня зьнікаюць з радараў
адвозяць пасажыраў да Бёля
да продкаў Друона
проста да продкаў
або да нашчадкаў у пятым калене
даруйце але табе спачатку
трэба атрымаць прэмію *Алека*

бярэш квіток на цягнік
купэ на аднаго
два дні і дзьве ночы
краявіды
музы
начныя сатурналіі
засады на горных дарогах
так езьдзіў Алека

4

ты адзін у купэ
адзін у вагоне
магчыма у цэлым цягніку
(так і мусяць езьдзіць ляўрэаты)
плюс два маскоўскія праваднікі
Саша сьпіць як мядзьведзь у мярлозе
Гена чытае *Востраў Крым**
ты чытаеш айчынныя газэты за тыдзень

сьмецьцевы кантэйнэр працуе бездакорна
электроннае табло таксама не падводзіць

* Раман Васіля Аксёнава.

за бортам нязьменна мінус 51
на борце плюс 70
час 12:40
магчыма час правільны

у цягніках час ідзе іначай
разганяецца на перагонах
спатыкаецца на станцыях
хаваецца за валізкамі
паварочвае назад
прывозіць успаміны як у дзяцінстве
ты безразважна гуляўся з часам
загадваў спыніцца
бегчы ў адваротны бок
лавіў час у прыгаршчы
мыў часам твар
рызыкаваў што час пакрыўдзіцца
дзесяцігодзьдзі прамільгнуць днямі
быў хлопчыкам а ўжо дзядуля
або наогул надмагільны помнік
час шкадаваў цябе
яшчэ толькі 12:40

час пазвоньвае лыжачкай у пустой шклянцы
няўжо час памятае мэлёдыю *Eight Days a Week*[*]?
яны ж так рэдка гралі яе
Ленану чамусьці не падабалася
называў яе вашывай
вядома глупства
калі Ленан граў апошні раз
табе было дваццаць сем
маці спытала чаму ты плачаш
маці не хацела каб ты стаў пісьменьнікам
але гэта іншая гісторыя

---

[*] *Восем дзён на тыдні*. Песьня групы *The Beatles*.

ідзеш да Гены па кіпень
на століку ў Гены твае газэты са сьметніцы
Гена: *я потрясён!*
*я думал вы против батьки*
*а вы против России и Путина*
ты: *теперь не дадите мне кипятка?*
Гена: *кипятка дам!*

5

ва Ўкраіне вайна
маскоўскі цягнік блытае сляды
ідзе на Варшаву
Браціславу
Будапэшт
Бялград
можна сустрэць самога сябе
або выйсьці у брацілаўскім музэі гадзіньнікаў
некалі ў гэтым музеі табе заманулася
стаць гадзіннікам
ісьці
спазьняцца
сьпяшацца
рамантавацца
ісьці пакуль ня скончыцца гарантыйны квіток
куды толькі ні завядзе мэнзурка
тваёй цыганскай крыві

засынаеш на сэрбскай мяжы
табе сьняцца горы і зоркі
што вышэй?
напэўна анёлы й анёліцы
цікава якія ў іх стасункі паміж сабой
а таксама з русалкамі

зімовая ноч доўгая
асабліва на Балканах

табе сьняцца сны пра дзіцячыя сны
яны ўваходзілі ў спальню на высокіх мяккіх лапах
схіляліся над ложкам
цалавалі цябе ў лоб
у дрыготкія павекі
у вузкія прыцэўкі
у пальчыкі на нагах што выткнуліся з-пад коўдры
калі памрэш
ты хацеў бы стаць
дзіцячым сном

цябе будзіць стрэл
за ім аўтаматная чарга
горы ўмеюць расстрэльваць сны

хто гэта сказаў пра час:
мы тут былі і адбыліся?
маўляў мілы прытулак
пяшчотны і эфэмэрны
твой варыянт пазбаўлены лірыкі:
былі і не адбыліся
разьвеяліся ў экзыстэнцыйным тумане
у мірным пяшчотным прытулку
дзе над ложкамі схіляюцца
пачвары і дэманы

зноў стрэлы
добра было б загінуць у цягніку
асабліва калі ты адзін у купэ
адзін у вагоне
асабліва калі ты ляўрэат прэміі *Алека*
будзеш  ехаць ехаць ехаць
*туды*
а потым назад дадому
але заўважце – таксама *туды*
калі баўгары людзі без забабонаў
ты мог бы вярнуцца з прэміяй

капэрта ў кішэні
мэдаль на штрыфэлі пінжака
у цырымоніі ўдзельнічалі Бёль і Друон

раніцой яшчэ Сэрбія
мерцьвякі разам з могілкамі
урачыста ўзыходзяць на горы
сэлевыя плыні сьмецьця
спускаюцца ад вёсак па смарагдавых схілах
у гарадах і мястэчках павольна канае кірыліца
калі ты астатні раз бачыў вакзалы з фанэркамі ў вокнах?
відаць у чорна-белых фільмах пра нашых і немцаў

6

у цэнтры Сафіі
помнік баўгарскім лётчыкам
ваявалі на баку немцаў
баранілі Стары горад
ад ангельскай ды амэрыканскай авіяцыі
не абаранілі
2000 бомбаў за адзін ціхі вясновы вечар
чырвоныя ружы
ля помніка капітану *Люфтвафэ*
Герхарду Вэнгелю
вечная памяць героям!

у тваім Полацку
немцы не абаранілі Стары горад
ад авіяцыі савецкай
потым цябе вучылі ў школе
што фашысцкія захопнікі
зьнішчылі гістарычны цэнтар гораду
каму ставіць помнікі?

Буюк-мячэт ператвораны ў археалягічны музэй
калі-небудзь для новай экспазыцыі

археолягі прапануюць лэптоп
*Reader*
смартфон з базай дадзеных
твой спадарожнік Румэн:
праз трыццаць гадоў тут зноў будзе мячэт
адзінае суцяшэньне – ён не пабачыць
чаму?
цяпер яму шэсьцьдзясят шэсьць
адказ вычарпальны

у мастацкай галерэі выстава Пікаса
белы абрус з плямамі
кольцы ад шклянак з чырвоным
тлушч
сьляды губной памады
нешта малочна-белае густой кансыстэнцыі
*Полудзень мастака*
дата і подпіс *Picasso(?)*

вы з Румэнам можаце ня горш
выбіраеце кавярню зь белымі абрусамі
акрапляеце абрус знаёмым вінам
вы пазнаёміліся ўчора ўвечары
пазнаёміліся вельмі блізка
можна сказаць інтымна
шчасьліва заснулі й прачнуліся разам
у сэньсе ня з Румэнам а зь вінам *Мезэк*
кроплі на абрусе
ну проста журавіны на сьнезе
вакол твайго млына

у вашай палітры
аліўкавы алей
папрыка
соус песта
агністы кетчуп
свае барвы дадаюць талеркі з *агнешкай*

афіцыянт: адміністратара ці адразу паліцыю?
Румэн: мы хочам купіць гэты абрус!
яшчэ адзін *Мезэк*
ты: а як наконт губной памады
і нечага белага густой кансыстэнцыі?
Румэн: творчы акт у працэсе

7

тваю перакладчыцу завуць Пенка
распавядзеш ёй як у дзяцінстве любіў пенку
мама ў белым хвартушку варыла сочыва
варыла ў сінім эмаляваным тазе
ты разам з залацістымі восамі
прагна чакаў пенку пенку пенку
ружовую пухнатую паветраную пенку
ад трускалак суніц вішняў чорных парэчак
асабліва ад маліны
мама казала там зварыліся чарвячкі
ты радасна згаджаўся
аблізваў лыжку
заплюшчваў вочы ад асалоды

Пенка пераклала *Лаліту*
*Чорны замак Альшанскі*
твой *Ордэн Белай Мышы*
колькі ёй гадоў?
ня Белай Мышы а загадкавай Пенцы
ты скажаш: зь дзяцінства любіў пенку
салодкую гарачую пенку
скажаш лёгка і ўпэўнена
у Пенкі будуць цёплыя рукі
у цябе салодкія ад пенкі вусны

у Пенкі цёплыя рукі
арэхавыя вочы
пачуцьцёвыя вусны

зграбныя кійкі-мыліцы
а ты думаў яна Лаліта?

Пенка таксама п’е чырвонае
таксама гістарычны факультэт
выкладала
мела праблемы з уладай
цяпер выкладае табе
тэма *Тры расейскія акупацыі*
першая зьмяніла турэцкую
другая пасьля Другой сусьветнай
трэцяя цяпер
скупілі ўсё ўзьбярэжжа
Расея як мядзьведзь ля плоту цывілізацыі
самая трагічная памылка баўгараў
іхняе русафільства

зь Пенкай час інакшы
выразна баўгарскі
македонцы гэта баўгары
Кіеў заснавалі баўгары
магіла хана Аспаруха* каля Запарожжа

для вас у студзені плюс пятнаццаць
зорнае неба таксама заснавалі баўгары
прынамсі над Балканамі
вуснамі валадарыць
пенка ад малінавага сочыва

8

там за перавaламі Сьвіштаў
*Алека*
засады на горных дарогах
пасьля бяссоннае ночы

---

* Заснавальнік першай баўгарскай дзяржавы на Дунаі.

маеш поўнае права
на нездаровы неспакойны сон

вальера ператвораная ў млын
жорны мелюць пустыя пляшкі з-пад *Мезэку*
муза ў абліччы русалкі
русалка ў абліччы Пенкі
нясіце прэч мэдыкамэнты
разам з кійкамі і мыліцамі!
наёмныя забойцы
заснулі ў абдымках арэядаў і напеяў

на яве рэстарацыя *Калгары*
пяць дзён ляўрэат балюе за кошт мэрыі
найлепшыя стравы
калекцыйныя віны
застоліцы ў стылі Пане Каханку
*Nulla dies sine ampulla**
адміністратарка: уявіце што перамог камунізм
сафійскі рэдактар тройчы жагнаецца
ты ўзгадваеш камунізм свайго дзяцінства
у сталоўках дармавыя гарчыца і хлеб
вясёлыя дзядзькі прыходзяць з пляшкамі
разліваюць намазваюць гарчыцу на хлеб
чаркаюцца:
ты малец будзеш жыць пры камунізьме
калі там не будзе гарэлкі нах…я нам такі камунізм!

ты: чаму *Калгары?*
гаспадар быў на той алімпіядзе
бабсьлей баўгары спартыўная нацыя
сафійскі рэдактар мэлянхалічна:
баўгары занялі апошняе месца

назаўтра вядома *Калгары*
ты адзін за столікам

* Ні дня бяз пляшкі (*лац.*)

адзін у цэлай рэстарацыі
(так і мусяць вячэраць ляўрэаты)
плюс дзесяцігадовы *Мавруд*

другая пляшка ўключае *Eight Days a Week*
запускае архіўную хроніку
з экрану сыходзяць чамусьці не бітлы
трое калегаў з іншасьвету
падсаджваюцца просяць наліць
адзін нібыта прасіў выбіць
на надмагільным помніку вершык
*ён кінуў піць бо — сьпіць*
выбілі зусім іншае — пра Радзіму
таму і ня кінуў
зь якога сьвету прыйшоў мужчына з Ружовай кавярні?

замаўляеш усім дунайскую рыбу
сом судак стронга селядзец
русалка кажа пароль
*чуюць віры свая*
русалка без вадзяніка
гэта абнадзейвае

на даляглядзе новы пэрсанаж
адно з двух: бандзюган або целаахоўнік
застоліца разьбягаецца
застаюцца
мужчына з Ружовай кавярні
русалка з келіхам у недрыготкай руцэ
ты з тупым нажом і відэльцам

бандыт або целаахоўнік:
я — гаспадар!
ты сам сабе: зараз адбярэ *Мавруд*
гаспадар: злы чалавек сказаў табе
баўгары занялі апошняе месца

запомні:
баўгары занялі 25-е месца!

гаспадар ляпае цябе па плячы
мужчына з Ружовай кавярні
ляпае па плячы гаспадара
русалка пытаецца
колькі ў Калгары было бабсьлейных камандаў
гаспадар замаўляе *Маврýд* у двух экзэмплярах

9

там за Дунаем Румынія
ніякая не Румынія кажа баўгарскі калега
там такія самыя баўгары
проста ім забаранілі гаварыць па-баўгарску
цяпер ужо ня ўмеюць
але маўчаць – павер
яшчэ па-баўгарску

на стромым беразе помнікі
белы мармур
зялёны мох
залатыя літары
*поручикъ Петровичъ*
*прапорщикъ Здань*
тут расейская армія пераправілася цераз Дунай
баўгарскі калега: *фамилии какие-то нерусские*

цяпер ты разумееш хто стаяў ля вакна
у закінутым доме насупроць гатэлю
стаяў глядзеў на цябе
танклявы тонкія сьветлыя вусікі
маўчаў па-беларуску

паручнік Пятровіч прыходзіць у наступную ноч
ведае што ў гатэлі ты адзін
(так і належыць ляўрэату)
адчыняе вакно
падхорцісты голены
глядзіць з табой на поўню
курыць пускаючы срэбныя кольцы
ня хоча раставаць у месяцовым сьвятле

10

у музэйнай вітрыне шкляны цыліндар
у цыліндры сьпірт
у сьпірце прабітае куляй сэрца
білася ў грудзях клясыка Алека Канстанцінава
у цябе нецьвярозая думка:
ці цьвярозае гэтае сэрца?

выходзіш з дому-музэю
у небе над Дунаем плывуць сэрцы пісьменьнікаў
Алесь Дудар
Міхась Чарот
Платон Галавач
Міхась Зарэцкі
Тодар Кляшторны
Мойшэ Кульбак
сталі аблачынкамі за адну кастрычніцкую ноч

выпіваеш у гатэлі пляшку віна
выганяеш русалку
накрываесься з галавою коўдрай
прыходзіць выратавальны сон
піраміда зь бясконцых цыліндраў
са сьпіртам
з прабітымі сэрцамі
(раней ты думаў іх стралялі ў патыліцу)

сэрцы жывыя
адбіваюць свае рытмы
шукаюць рыфмы
найбліжэйшы Алесь Дудар
пачынаеш чуць радкі
*о дух наш вольны дзе ты дзе ты?*
*ім мураўёўскі б гальштук ўзьдзець*
*нашчадкам мураўёўскім гэтым*

на цыліндрах з сэрцамі імёны
шукаеш сваё
шукаеш са страхам
са спадзевам
з астатняй надзеяй
не знаходзіш
прачынаесься з думкаю: *не заслужыў*

11

калі ў чалавека няма пачуцьця гумару
у яго мусіць быць пачуцьцё
што ў яго гэтага пачуцьця няма
у цябе ёсьць пачуцьцё
што ў цябе гэтае пачуцьцё ёсьць
таму так сьветла і радасна жыць
у прыватнасьці на банкеце ў гонар ляўрэата

за столікамі
выключна літаратары і літаратуразнаўцы
у літаратараў вакол мэра
зьлева ўнізе дудурацца пінжакі
вядома там кнігі ды рукапісы

табе здаецца
правадыр тутэйшых туркаў
галоўнейшы за мэра
цікава ці чытаў ён Архана Памука

напрыклад *Стамбул*
двое ў пінжаках падымаюцца насустрач
гатовыя адказаць на любыя пытанні
ці чыталі яны *Стамбул?*
адказ: Стамбул сталіца Турцыі
ты не спрачаешся

пакуль маўчала сарока Соня
туркі прывялі да ўлады новага мэра
былога мэра запрасілі на банкет
за столікам ён адзін
махае табе
выходзіць з залі
ты выходзіш сьледам
на ганку курыць паручнік Пятровіч
прапаршчык Здань сочыць зоры
правая рука на тальмаху

былы мэр віншуе на ангельскай
якая не гучала з тваіх вуснаў
нават у самых сьветлых снах
пасьля заняткаў з рэпэтытаркамі
тады сьнілася зусім іншае
часам сны збываліся
ангельская не рабілася ад гэтага лепшай
ты: *half the banquet money me would be enough*
*for a year's happy living*[*]
гучыць ня надта ветліва
*according to Somerset Maugham…*[**]
пачынае былы мэр
ты ўжо гатовы адказаць што
Маэм ня быў ляўрэатам прэміі *Алека*
сытуацыю ратуе турак
якраз зь ім ты размаўляў пра творы Архана Памука

[*] Паловы грошай на банкет хапіла б мне на год шчасьлівага жыцьця (*не зусім правільная ангельская*)
[**] Як казаў Сомэрсэт Моэм (*анг.*)

(таксама ня быў ляўрэатам прэміі *Алека*
але яшчэ мае шанец)
турак выходзіць на ганак
паказвае былому мэру на таксоўку:
таксісту заплачана!
паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань
уладкоўваюцца на заднім сядзеньні

12

ты зноў адзін у купэ
адзін у вагоне
магчыма ў цэлым цягніку
плюс два маскоўскія праваднікі
Калян п'е і сьпіць як мядзьведзь
Ваван п'е і – на варце
*а мы о тебе уважаемый наслышаны*
*Гена всё рассказал*
за бортам не пацяплела
мінус 51
на борце плюс 70
час 12:40 паводле сярэднегаляктычнага

Ваван: *значит не хочешь объединяться с Россией?*
ты маўчыш
Ваван ківае за вакно
*Ельцин был тряпка*
*Путя ввёл бы войска*
*всё бы здесь процветало*
ты: *как например Донбасс*
Ваван: *ты знаешь что такое русский характер?*
ты маўчыш
Ваван бязгучна варушыць вуснамі
зрэшты усё зразумела

за Бялградам прачынаецца Калян
*будешь бл…дь стрелять в русских?*

ты: *не буду*
Калян: *умница зачем лишние жертвы*
*надо как в Крыму*
ты: *буду бросать гранаты*

у цягніку два вагоны
твой апошні
за дзьвярыма тамбуру сталёвыя лініі лёсу
выбару ўсё адно няма

на даляглядзе які ўцякае
дзьве раўналежныя лініі
сыходзяцца ў адной срэбнай кропцы
там 12:40
на даляглядзе які набліжаецца
дзьве раўналежныя лініі
сыходзяцца ў адной срэбнай кропцы
там 12:40
значыць выбар ёсьць

цягнік ляціць як Лятучы Галяндзец
параўнаньне зацяганае
мусіш тэрмінова знайсьці лепшае
Балканскі экспрэс рыфмуецца з Усходнім
яшчэ адзін *Усходні экспрэс* на менскім вакзале
рэстаран з купэ
купэ не зачыняюцца
некаторым зусім не замінае
запытайце ў афіцыянтак
напрыклад пра купэ *Менск-Прага*

куды ты ляціш?
адказ мае Калян
*выкинем тебя нах…й*
*скажем пил по-черному*
*вышел на ходу подышать свежим воздухом*
12:40

час пульсуе ў скронях
як крынічка на галоўцы немаўляці
*кто тебя будет искать бл…дь кроме волков?*
*получат белоруса на ужин*
ты маўчыш
*шутка дарагой*
чамусьці з каўказскім акцэнтам кажа Калян
прыязна ўьміхаецца
б’е цябе ў сонечны суплёт

13

час вяртацца да цямы надыходзіць за Будапэштам
час звоніць лыжачкай у пустой шклянцы
вядома *Eight Days a Week*
хто глядзіць на цябе з-за вакна
вачыма чародкі казуляў?
ты ведаеш але нікому ня скажаш

у дзьвярах Ваван-русский характер
*уважаемый ты не мог бы написать нам благодарность*
*нам за них премию дают а пассажиров них…я нет*
*подумай хорошенько*
ты думаеш да Варшавы
Варшава поўніць вагон
маскоўскімі гінэколягамі
валізамі падобнымі да маладых кітоў
хвалямі тэлефоннага захапленьня
*мы думали поляки ненавидят русских*
*а они так принимали так принимали*
*фуршет просто фантастический*
*Степановича несли к поезду на руках*
паўз цябе праносяць Сьцяпанавіча
галава Сьцяпанавіча зьнячэўку падымаецца:
*гинеколог?*
ты: *пісьменьнік*

галава: *почему трезвый?*
галава падае

табе сьніцца: трэба нараджацца на сьвет
нараджацца страшэнна ня хочацца
відаць гэта маскоўская радзільня
маскоўскія гінэколягі
*главврач* Сьцяпанавіч
урэшце нараджаесься
разам з табой нараджаюцца
Палесьсе
мост цераз Ясельду
завея
гадзіньнік на якім 12:40
калідор з прыбіральняй
Сьцяпанавіч з півам

Сьцяпанавіч: *хороша ты русская земля!*
ты маўчыш
Сьцяпанавіч: *ты что молчишь сука?*
*ты не согласен? нам Колян всё рассказал*
ты маўчыш
*здесь на твоей недоношенной мове*
*никто уже не говорит*
*и не заговорит никогда*
*я знаю что говорю*
*я здесь вырос*
ты маўчыш
12:40
час пульсуе ў скронях
як крынічка на галоўцы немаўляці

14

Сьцяпанавіч: *жалею что не сделал твоей мамаше*
*элегантный маленький абортик*
ты маўчыш

Сьцяпанавіч на падлозе
Калян: *русских бьют!*

ты адступаеш у купэ
там лёгкі дымок
гэта паручнік Пятровіч
галава ў бінтах зь цёмнымі плямамі
хочаш зачыніць дзверы
прапаршчык Здань: не!
мыліцы Пенкі таксама дарэчы

пяты — Алека
шосты — мужчына з Ружовай кавярні
дзе ты мая русалка?
дзе ты сарока Соня?

там
за фіранкай завеі
Мілавіды

# Зьмест

## ТАМ ЗА ДЗЬВЯРЫМА (1991)



## ПАРОМ ПРАЗЬ ЛЯ-МАНШ (2006)

## УСЁ ПА-РАНЕЙШАМУ ТОЛЬКІ ІМЁНЫ ЗЬМЯНІЛІСЯ (2009)

НА ПОЎНАЧ АД КАХАНЬНЯ (2012)



ПАЭТЫЧНЫ ФЭСТ У ДРУСКЕНІКАХ (2015)



АЛЕКА (2016)

